■ Жанна Юбніцкая

## У ШКЛОВЕ ЎСЛЕД ЗА МАГІЛЁВАМ СТВОРАНА ГРАМАДСКАЯ ІНІЦЫЯТЫВА «ГРАМАДСКІ МАГІСТРАТ»

**У Шклове 10 красавіка прайшоў устаноўчы сход грамадскай ініцыятывы «Грамадскі магістрат».**



Як паведаміў “Нашаму Магілёву” адзін з удзельнікаў сходу, намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў, стварэнне «Грамадскага магістрата» ў Шклове спецыяльна было прымеркавана да 10 красавіка. У гэты дзень у 1762 годзе горад атрымаў пашыраныя паўнамоцтвы ў межах Магдэбургскага права, якое было дадзена яму ў 1577 годзе.

«Члены ініцыятывы даверылі мне ўзначаліць яе, абраўшы бургамістрам «Грамадскага магістрата», — сказаў Кастусёў. Ён зазначыў, што на першым пасяджэнні ініцыятывы прысутнічалі прыкладна 15 чалавек: трое з Магілёва, адзін з Бялынічаў, астатнія са Шклова.

«Асноўная мэта дзейнасці «Грамадскага магістрата» — данесці мясцовым уладам інфармацыю аб магчымасцях эканамічнага развіцця Шклоўскага раёна. У нас ёсць шмат напрацовак, як палепшыць эканамічную сітуацыю, на што раённым уладам трэба звярнуць увагу, каб раён эканамічна стаў мацнейшым», — сказаў Рыгор Кастусёў.

Паводле яго, зараз эканамічная сітуацыя ў Шклоўскім раёне не паляпшаецца, раён пакідаюць замежныя інвестары. «Нядаўна сышлі літоўскія інвестары, і гэтыя працэсы працягваюцца», — сцвярджае Кастусёў.

Аднак найперш актывісты ініцыятывы маюць намер звярнуцца да мясцовых уладаў з прапановай устанавіць на гарадской ратушы памятную дошку з інфармацыяй аб наданні Шклову Магдэбургскага права. Шклоўская ратуша, паводле сцвярджэння Кастусёва, з`яўляецца адной з трох у Беларусі, якія захаваліся з далёкіх часоў да нашых дзён і не з`яўляецца новабудоўляй.

«Таксама ў планах — супрацоўніцтва з магілёўскім «Грамадскім магістратам». Будзем, у сваю чаргу, перадаваць свой вопыт іншым гарадам, дзе раней было Магдэбургскае права, напрыклад Бялынічам, Крычаву, Чэрыкаву, Мсціславу, і прапагандаваць свае ідэі на іншыя рэгіёны, каб узмацніць і развіць мясцовае самакіраванне», — заявіў Кастусёў.

ЭКАНОМІКА

■ Якуб Корсак

## БУДЫНАК БЫЛОГА ДОМА БЫТА АТРЫМАЎ НОВАГА ЎЛАСНІКА

**Па выніках рагляду конкурсу па стварэнні адміністрацыйна-дзелавога цэнтра перамагло ПТПУП «Шафаг 88».**




Пра гэта паведамілі ў Магілёўскім гарвыканкаме.

Дадзеная арганізацыя вядома ў Магілёве па будаўніцтву гандлёвага аб'екта «Армада» і крамы «Палас».

Плануецца, што на працягу 42 месяцаў на месцы будынка былога Дома быта ў цэнтры Магілёва з'явіцца адміністрацыйна-дзелавы цэнтр, у склад якога увойдуць гасцініца, канферэнц-заля, гандлёвыя плошчы больш за 1000 кв.м., аб'екты грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання насельніцтва. Праектам прадугледжана і добраўпарадкаванне тэрыторыі.

У гарвыканкаме адзначылі, што інвестдамова будзе падпісана ў самы бліжэйшы час.


# НАШ МАГІЛЁЎ

http://gazetanm.eu
№68

Надрукавана на ксераксе.
Наклад 299 ас.
Адрас рэдакцыі: Магілёў, вул. Ленінская, 29.
Распаўсюджваецца бясплатна.
gazetanm.eu@gmail.com

**Галоўны рэдактар - Вітольд Няўрыда**

Незалежнае грамадска-палітычнае выданне горада. 28 красавіка 2014 г.


ГРАМАДСТВА

■ Станіслаў Дубовік

## МАГІЛЁЎСКІ АБЛСУД АСУДЗІЎ БЫЛОГА ГОМЕЛЬСКАГА ГРАДАНАЧАЛЬНІКА НА ПЯЦЬ ГАДОЎ ПАЗБАЎЛЕННЯ ВОЛІ

**Былы кіраўнік Гомельскага гарвыканкама Віктар Пiлiпец і былы дырэктар упраўлення капітальнага будаўніцтва (УКБ) Гомеля Ігар Адарчанка асуджаныя на пяць гадоў пазбаўлення волі за злоўжыванне ўладай і службовымі паўнамоцтвамі.**



У дачыненні да астатніх трох фігурантаў крымінальная справа спынена па амністыі. Такое рашэнне прынята 22 красавіка Магілёўскім абласным судом.

Разгляд крымінальнай справы ў дачыненні да службовых асоб Гомельскага гарвыканкама пачаўся 4 лістапада 2013 года. Паводле звестак Следчага камітэта, у верасні—кастрычніку 2011 года абвінавачаныя незаконна размеркавалі паміж сабой, сваімі сваякамі, блізкімі і знаёмымі 24 кватэры ў дамах, прынятых у эксплуатацыю ў студзені—красавіку таго ж года. Затым гэтыя кватэры былі прададзеныя па цане значна ніжэйшай за рыначную. Частка жылых памяшканняў была аформлена на падстаўных асоб.

На лаве падсудных, акрамя Пiлiпца і Адарчанкі, апынуліся намеснік дырэктара УКБ па эканоміцы і фінансах Валерый Барысевіч, начальнік жыллёва-інвестыцыйнага аддзела Антаніна Зелянок і начальнік планавадагаворнага аддзела Ала Нізкоўская. Пiлiпец і Нізкоўская ўтрымліваліся ў магілёўскім СІЗА. Астатнія знаходзіліся пад падпіскай аб нявыездзе.

Паводле прысуду, зачытанаму суддзёй Сяргеем Коневым, Пiлiпец і Адарчанка прызнаныя вінаватымі ва злоўжыванні ўладай і службовымі паўнамоцтвамі (ч. 3 арт. 424 КК). Суд пагадзіўся з дзяржаўным абвінаваўцам Дзянісам Кічыгіным і прыгаварыў абодвух падсудных да пяці гадоў зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. У якасці дадатковага пакарання ў іх канфіскавана маёмасць і яны пазбаўлены права займаць пэўныя пасады на пяць гадоў. Адарчанка быў узяты пад варту ў зале суда.

У дачыненні да Барысевіча, Зелянок і Нізкоўскай справа была перакваліфікавана з часткі 3 артыкула 424 КК на частку 2 таго ж артыкула і спынена не па рэабілітуючых акалічнасцях, а таму што яны трапілі пад амністыю 2012 года. З Барысевіча і Зелянок знята падпіска аб нявыездзе. Нізкоўская, якая прабыла больш як 22 месяцы пад вартай, была вызвалена ў зале суда.

«Дваццаць два месяцы я была пад вартай. Пяты раз змяняецца абвінавачанне. Быў бы чалавек, а артыкул знойдзецца?» — заявіла ў каментары журналістам Нізкоўская, якая, як і ўсе астатнія падсудныя, не прызнала сваёй віны.

Пiлiпец, які знаходзіўся падчас суда ў жалезнай клетцы, адмовіўся каментаваць прыгавор.

Адвакат Адарчанкі заявіў пра намер абскардзіць вынесенае Магілёўскім аблсудом рашэнне ў Вярхоўным судзе Беларусі. «Прыгавор неаб'ектыўны і несправядлівы — усе доказы вытлумачаны на карысць абвінавачання. Спадзяемся, што Вярхоўны суд больш аб'ектыўна разгледзіць справу», — сказаў ён журналістам.

Падчас вынясення прыгавору знепрытомнела маці Валерыя Барысевіча. Ёй выклікалі хуткую меддапамогу.

Дзяржабвінавачанне, у сваю чаргу, мае намер вывучыць судовую пастанову, па якой справа ў дачыненні да Барысевіча, Зелянок і Нізкоўскай была перакваліфікавана і спынена. «Пытанне вынясення пратэсту, прыватнага ці касацыйнага, на ўказаную судовую пастанову будзе вырашана на працягу 10 дзён пасля вывучэння судовых пастаноў», — заявіў Дзяніс Кічыгін журналістам.

Ён таксама паведаміў, што інфармацыя аб прымяненні да Пiлiпца незаконных метадаў следства падчас судовага расследавання не знайшла свайго пацвярджэння.

unian.net

# ЯЦЕНЮК ТРЕБУЕТ ОТ РОССИИ ПРЕКРАТИТЬ ПОДДЕРЖКУ ТЕРРОРИЗМА

**Захват военных инспекторов ОБСЕ в Славянске - «это еще одно доказательство, что так называемые мирные протестующие с российскими паспортами являются реальными террористами».**



Об этом заявил премьер-министр Украины Арсений Яценюк журналистам в Риме по завершении встречи с Папой Римским Франциском в субботу, 26 апреля, сообщили УНИАН в пресс-службе Кабмина.

«Это недопустимо», - подчеркнул Яценюк.

Несмотря на это, подчеркнул глава правительства, Россия не осудила этих террористов.

«Это четкий знак, что Россия поддерживает этих бандитов и преступников, которые запугивают мирное население, стреляют в местное население и солдат и терроризируют не только Украину, но и всю Европу - с помощью сил, которые возглавляются Россией», - отметил премьер.

Террористы планируют использовать захваченных представителей ОБСЕ как «живой щит» - СБУ

«Требуем от Российской Федерации выполнять международные обязательства и все двусторонние и многосторонние соглашения, в том числе и Женевские договоренности. Требуем от России отозвать свои силы безопасности, не провоцировать и не поддерживать возглавляемых Россией террористов, находящихся на территории восточной Украины. Мы требуем от России оставить нас в покое», - подчеркнул Яценюк.

# СМОЖЕТ ЛИ ЛУКАШЕНКО ОСТАНОВИТЬ ВТОРЖЕНИЕ ПУТИНА В УКРАИНУ?

**Глава Беларуси призывает Россию и Запад утихомириться для стабилизации ситуации в Украине. Зачем Лукашенко решил выступить в роли миротворца?**

-Ситуация очень серьезная там. Надо стабилизировать обстановку. И Западу, и России надо утихомириться, и понять одно: мы в величайшей ответственности за этот кусок земли, потому что там живет уникальный народ, наши люди, славяне. Нельзя действовать на уничтожение государства и этого народа, -- заявил вчера Лукашенко во время общения с жителями Климовичей.

Политолог Александр Класковский считает, что руководитель Беларуси вынужден продолжать политику балансирования в украинском вопросе.

- С одной стороны, он должен играть роль союзника Москвы. Тем более сейчас, когда обострилась нужда в российской подпитке. С другой стороны, для Лукашенко важно сохранить нормальные отношения с новыми властями в Киеве, чтобы не прервались выгодные экономические связи с Украиной, - подчеркивает эксперт.

Как считает аналитик, Лукашенко также стремится публично продемонстрировать, что он является самостоятельным политическим лидером.

- Здесь есть момент игры на свой электорат. Мол, я могу по-отечески прикрикнуть на расшалившихся политиков и в Москве, и в Киеве. Но это, скорее, пиаровская бравада, - говорит политолог.

Глава Беларуси не настолько силен, чтобы требовать от Кремля и Запада оставить Украину в покое.

- Возможно, Лукашенко намекает Киеву и Москве, что Минск может отыграть какую-то посредническую роль, - предполагает аналитик.

Александр Класковский считает, что белорусская сторона имеет определенный вес в вопросе разрешения российско-украинского конфликта.

- Киев старается контактировать с Минском: вернули посла, была встреча Лукашенко с Турчиновым. В свою очередь, Путин собирается в Минск. Польский премьер Туск звонил Лукашенко. Я думаю, что таким образом глава белорусского государства пытается утвердиться в роли посредника, -говорит политолог.

По его мнению, закулисно Лукашенко пытается убедить Путина, что роль Минска в качестве переговорной площадки на руку самому Кремлю.

- Минск пока пытается выторговать себе некую относительную свободу маневра. Хотя она невелика. Если Путин решится на вторжение в Украину, то может быть использован и белорусский плацдарм, поскольку в Барановичах уже находятся российские самолеты, -- прогнозирует Класковский.



Ядвіга Лютова

# У МАГІЛЁВЕ СТАРТАВАЎ ТРАДЫЦЫЙНЫ ФЕСТЫВАЛЬ ПОЛЬСКАГА КІНО

**У магілёўскім Доме польскім 22 красавіка пачаліся паказы мастацкіх фільмаў у межах XVII фестывалю польскага кіно.**

«Мэта гэтага фестывалю тая ж, што і мінулых, — паказаць беларускаму гледачу польскі кінематограф, паказаць агульную культуру, агульныя традыцыі, імкненні і жаданні, якімі жывуць людзі і ў Беларусі, і ў Польшчы», — заявіў метадыст Дома польскага ў Магілёве Сяргей Маршалкоўскі.

Тэматыка запланаваных да паказу фільмаў разнастайная: любоўная лірыка, рамантычная камедыя, драматычная жыццёвая сітуацыя.

У праграме фестывалю чатыры фільмы, якія будуць дэманстравацца ў Доме польскім да 25 красавіка. Гэта «Малая Масква» рэжысёра Вальдэмара Кшыстака, «Закаханыя» Пятра Верасьняка, «Кілер» Юліуша Махульскага і «Джульета вяртаецца дамоў» Агнешкі Холанд.

Маршалкоўскі сказаў, што раней фестываль праходзіў у розных кінатэатрах Магілёва, але ўвесь час былі несупадзенні, пераносы, лішнія выдаткі. Таму арганізатары прыйшлі да высновы, што дэманстраваць фільмы лепш за ўсё ў «сваіх сценах» — у Доме польскім.

«Самае прыемнае, што пасля паказаў людзі падыходзяць і пытаюцца, а дзе гэта можна паглядзець, таму што я не ведаў, што гэта так цікава», — сказаў Маршалкоўскі агенцтву БелаПАН, адзначыўшы, што польскі кінематограф блізкі беларускаму гледачу, выхаванаму на фільмах савецкіх рэжысёраў.

Станіслаў Дубовік

# У МАГІЛЁВЕ “ЛЯТУЧЫ ЎНІВЕРСІТЭТ” УЗГАДАЎ ПРА ТВОРЧАСЦЬ РЫГОРА БАРАДУЛІНА

**Рыгору Барадуліну як мала каму іншаму ўдалося быць народным паэтам не паводле афіцыйнага звання, а паводле народнага прызнання, заявіў 12 красавіка ў Магілёве кіраўнік Беларускага ПЭН-цэнтру Андрэй Хадановіч, выступаючы з публічнай лекцыяй «Беларускі космас Рыгора Барадуліна», якая прайшла ў межах праграмы “Лятучага ўніверсітэта”.**



Паводле Андрэя Хадановіча, паэзія Барадуліна - з’ява настолькі яскравая і разнастайная, што кожная эпоха, кожная ідэалогія не раз спрабавалі надаць гэтаму нейкі асаблівы статус, выбудаваць вакол паэта такое кола сэнсаў, якое стварыла б з яго «больш чым паэта» - паэта-нацыянальнага змагара, паэта-пабожніка, маральны аўтарытэт і сумленне нацыі, але Барадуліну ўвесь час удавалася выйсці па-за гэтыя рамкі, быць шырэйшым, глыбейшым, шматпластавым.

Андрэй Хадановіч распавёў, што Барадулін вельмі ганарыўся прысуджэннем яму звання народнага паэта ў першыя чатыры гады беларускай незалежнасці, калі кампартыйнай улады ўжо не было, а цяперашняя ўлада яшчэ не прыйшла.

Барадулін не мог не выступаць на мітынгах, ухіліцца ад адраджэнскага руху, але гэта не значыць, што ён быў нейкім рупарам нейкіх палітычных сіл, кажа Хадановіч. Таксама не быў ён рупарам рэлігійнай канфесіі, да якой належыў згодна веравызнання, паколькі вельмі дзёрзка абыходзіўся з біблійнымі тэкстамі, перарабляючы іх у вершы.

«Хрышчоны паганец» - такое вызначэнне Барадулін прымяняў да ўсёй беларускай ментальнасці, адзначыў Хадановіч.

Паводле кіраўніка Беларускага ПЭН-цэнтру, каля 10 гадоў Рыгор Барадулін не меў магчымасці друкавацца, але яму было вельмі камфортна выступаць у мінскім Чырвоным касцёле.

Галоўная місія, якую абраў для сябе Рыгор Барадулін было захаванне беларускай мовы, што зрабіла яго ці не самым знаным беларускім моватворцам, заявіў Андрэй Хадановіч.

Даведка: Рыгор Іванавіч Барадулін нарадзіўся 24 лютага 1935 года на хутары Верасоўка (Ушацкі раён Віцебскай вобласці). Скончыў Ушацкую сярэднюю школу ў 1954 годзе, у 1959-м — філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Актыўна ўдзельнічаў у стварэнні Беларускага ПЭН-цэнтра і кіраўніцтве ім, быў членам Саюза беларускіх пісьменнікаў. З’яўляўся членам Партыі БНФ, а з 1989 года — членам сойма гэтай партыі. Пяру літаратара належыць больш чым 70 паэтычных зборнікаў, каля 30 зборнікаў перакладаў, мноства крытычных артыкулаў і эсэ. Яго творы перакладзеныя прыкладна на 40 моў. Паэт памёр у Мінску 2 сакавіка 2014 года ва ўзросце 79 гадоў.

Яўген Калмач

## У МАГІЛЁВЕ АДВАКАТКА ЗАЯЎЛЯЕ ПРА ПЕРАШКОДЫ АДВАКАЦКАЙ ДЗЕЙНАСЦІ З БОКУ ЧЫНОЎНІКАЎ

**У Магілёве адвакат Наталля Мяцеліца звярнулася ў гарадскую пракуратуру са скаргай на чыноўнікаў гарвыканкама, якія, на яе думку, перашкаджаюць ажыццяўленню адвакацкай дзейнасці.**



**На фота прадстаўніца ініцыятыўнай групы жыхароў Іна Гусейнава**

Нагадаем, у Магілёве 79 жыхароў сямі жылых дамоў па вуліцы Крупскай патрабуюць ад гарадскіх улад адмяніць рашэнне пра знос гэтых будынкаў, прынятае, як лічаць, незаконна. Яны сцвярджаюць, што Магілёўскі гарвыканкам неабгрунтавана і тайна прыняў у снежні 2013 года рашэнне аб непрыгоднасці кватэр для жылля, акты ж абследавання кватэр у 2013 годзе не адпавядаюць рэчаіснасці. Прадстаўнікі ўлады сцвярджаюць адваротнае, заяўляючы, што ўсе іх дзеянні законныя.

Для абароны сваіх інтарэсаў жыхары звярнуліся да магілёўскіх праваабаронцаў. Акрамя таго, адна з жыхарак Іна Гусейнава наняла адваката, пры дапамозе якога збіраецца абскардзіць прынятае ўладамі рашэнне аб зносе дамоў, бо жыхары лічаць іх прыгоднымі для пражывання.

Як сцвярджаецца у скарзе адваката Мяцеліцы, намеснік начальніка гарадскога аддзела ЖКГ гарвыканкама Аляксей Шарай, а пазней кіраўнік справамі гарвыканкама Ігар Аўсеенка і начальнік упраўлення ЖКГ Ігар Данькоў перашкаджалі азнаямленню з аб'ёмным пакетам дакументаў, забараняючы іх капіраванне.

«Паводле артыкула 16 закона «Аб адвакатуры і адвакацкай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь» мне не павінна рабіцца якіх-небудзь перашкодаў ажыццяўленню адвакацкай дзейнасці. Паводле артыкула 17 закона, выступаючы ў якасці прадстаўніка, я маю права ўжываць у сваёй прафесійнай дзейнасці тэхнічныя сродкі, у тым ліку фотаапаратуру», — адзначае ў сваёй скарзе на імя пракурора Магілёва адвакат Мяцеліца.

Начальнік юраддзела гарвыканкама Аляксандра Краўчанка пацвердзіла правамернасць забароны адвакату рабіць копіі з дакументаў, што даследуюцца, сведчыць у сваёй падобнай скарзе на імя гарадскога пракурора кліент Наталлі Мяцеліцы Іна Гусейнава, якая таксама знаходзілася ў той момант у гарвыканкаме.

Адвакат і яе кліент просяць пракурора правесці праверку выканання заканадаўства, прыняць меры пракурорскага рэагавання, абавязаць магілёўскіх чыноўнікаў не ствараць перашкод адвакату ў ажыццяўленні адвакацкай дзейнасці, а таксама прыцягнуць вінаватых да ўстаноўленай законам адказнасці.

Нагадаем, паводле рашэння гарвыканкама, на працягу 2014 года сем дамоў па вуліцы Крупскай будуць знесеныя. Тыя, хто мае ў іх прыватызаваныя кватэры, уселяцца ў арэндные жыллё і атрымаюць грашовую кампенсацыю па рынычнай цане сваіх цяперашніх кватэр. Жыхарам непрыватызаваных кватэр будзе прапанавана жыллё з дзяржаўнага жылога фонду з магчымасцю яго прыватызацыі да 2016 года.

## НА МАГІЛЁЎСКІМ ГАЛОЎПАШТАМЦЕ РАЗМЕСЦІЛІ ФЛЮГЕР З ГЕРБАМ

**Ініцыятыва яго з'яўлення належыць кіраўніку горада Уладзіміру Цумараву.**

Агучваючы сваю ідэю аб усталяванні флюгера напачатку года старшыня гарвыканкама адзначыў, што флюгер мусіць быць усталяваны на галоўпаштамце, бо ён з'яўляецца цэнтрам горада, месцам ад якога ідзе адлік адлегласцяў да іншых гарадоў.

Усталёўвалі галоўны флюгер Магілёва камунальнікі, а вырабілі яго на заводзе «Магілёўліфтмаш», паведамляюць «Магілёўскія ведамасці».

На яго выраб пайшло каля 160 кілаграмаў метала. Агульная ж вага канструкцыіі з флюгерам складае каля 200 кг. Вышыня флюгера - 5,5 метраў. Яго кошт складае 60 мільёнаў рублёў, аднак «Магілёўліфтмаш» падараваў яго галоўпаштамту, - піша gorad.by.



Пан Тадеуш

## НА ПАСХУ У ЗАМПРЕДА МОГИЛЁВСКОГО ОБЛИСПОЛКОМА АЛЕКСЕЯ ЯКОВЛЕВА «СОРВАЛО КРЫШУ»

**Поздним вечером 22 апреля чиновник, в состоянии алкогольного опьянения, бегал по двору дома по ул.Габровская, 31а и на скорую руку наводил порядки. Его беготня и крики о том, что двор его, а многоэтажный дом он купил, собрали с десяток неравнодушных зевак.**

Жена Алексея Яковлева спокойно стояла и наблюдала за поведением своего «высокопоставленного» мужа.

Всё началось с того, что в близлежащем магазине сработала сигнализация и по вызову приехала охрана, которая охраняла объект до появления заведующей.

Вдруг откуда не возьмись, в трико и в майке, появился молодой человек, который начал предъявлять претензии к сотрудникам охраны, что рядом народ празднует, а милиция никак не реагирует.

Молодой человек представился чиновником из облисполкома, однако по его внешнему виду и издыхаемых им паров алкоголя, сотрудники милиции видимо не поверили ему и дабы удостовериться, что он действительно чиновник, а не местный гопник потребовали от него соответсвующих документов.

Униженный данным требованием молодой человек побежал домой и вскоре принёс документы, удостоверяющие личность, чем удивил не только милицию, но и собравшуюся толпу.

Идентифицированный Алексей Яковлев начал сразу же раздавать указания «бездействующей милиции», мол чего тут во дворе дома злоупотребляют спиртным и паркуются во дворе его дома посторонние автомобили.

Рядом сидело две кампании - подростков, которые кушали чипсы и двух молодых семей, рядом с которыми бегали дети. После замечания милиционеров молодые семьи покинули детскую площадку и пересели в стоящую рядом машину.

- Чаго бездействуеце? Пачаму не прывлекли к ответственности. Неужэли с уходом Балейки пачувствовали безвластие?! Пачаму тут пастаронние паркуются! Это мой двор! Это мой дом! Да, я яго купил! - кричал 39-летний чиновник.

Кто-то из жильцов умудрился заснять данного предсавителя власти на мобильный телефон и обещал выложить видео в интернет.



Тем не менее, на разборки с нарушителями спокойствия пьяный чиновник не пошёл, а наблюдал за профилактическим разговором милиции с компанией на расстоянии 50 метров. Очевидцы отмечают, что чиновник просто боялся засветиться, ведь после его появления никто не мог гарантировать, что назавтра в его автомобиле не будут проколоты шины.

Вслед за первым заместителем Могилёвского облисполкома Владимиром Киселёвым, который прославился на весь город тем, что не пускал на приём женщину со спящим у неё на руках ребёнком, Алексей Яковлев также сыскал себе дурную славу. Так и хочется спросить у руководителя области Петра Рудника, каким критерием он пользовался подбирая себе команду? Ведь свита делает короля, а не король свиту.

В облисполкоме Алексей Яковлев обеспечивает общее руководство и контроль за комплексной модернизацией организаций в Могилевской области, а также контроль за инвестиционной деятельностью, выполнением государственных и областных программ (планов) по напралению деятельности в курируемых структурных подразделениях облисполкома и организациях.

Курирует вопросы развития промышленности, топливно-энергетического комплекса области и его эффективности, качества и конкурентоспособности продукции промышленности, научной, научно-технической и инновационной деятельности, интеллектуальной собственности, стандартизации.



■ Станіслаў Дубовік

## АРХЕАЛАГ ІГАР МАРЗАЛЮК І АКТЫВІСТ АХОВЫ ПОМНІКАЎ УЛАДЗІМІР КРАЎЧАНКА ПА-РОЗНАМУ АЦЭНЬВАЮЦЬ ХОД ДОБРАЎПАРАДКАВАННЯ Ў ГІСТАРЫЧНЫМ ЦЭНТРЫ МАГІЛЕВА

**Разбурэння культурнага слою работнікамі ЖКГ пры добраўпарадкаванні Падніколля не было, заявіў БелаПАН загадчык кафедры археалогіі і спецыяльных гістарычных дысцыплін Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, член Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі Ігар Марзалюк.**



Актывіст аховы помнікаў Уладзімір Краўчанка выказвае процілеглую думку.

Адзначым, што 11 красавіка старшыня абласнога савета Магілёўскага аддзялення Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Уладзімір Краўчанка паведаміў, што пры работах па добраўпарадкаванні раёна Падніколля быў разбураны культурны слой тэрыторыі і рэшткі старых будынкаў.

«Парушэннем культурнага слою з'яўляецца сітуацыя, калі вядуцца незаконныя і несанкцыянаваныя работы ад глыбіні 0,4-0,6 м. Верхні пласт наогул да глыбіні 0,4 м можна здымаць без нагляду. Але нават гэта там не зроблена. Ну і ніякіх парушэнняў там не будзе, таму што яны ўзгадніли папярэдне, паказалі мне ўсе гэтыя праекты», — заявіў Марзалюк.

Тое, што пры работах быў закрануты тэхнікай падмурак старажытнага дома, археолаг таксама не лічыць парушэннем. «Тое, што яны зачапілі гэты падмурак, то дэ-юрэ яны нічога не парушылі, таму што ён нідзе не абазначаны, як аб'ект не зарэгістраваны. Гэта падмурак дома XIX — пачатку XX стагоддзяў», — сказаў Марзалюк.

Разам з тым ён паведаміў, што больш парушэнняў заканадаўства па ахове культурна-гістарычнай спадчыны адбываецца па віне чорных капальнікаў. Сенатар адзначыў, што кіраўніцтва горада павялічыць прысутнасць супрацоўнікаў міліцыі ў раёне Падніколля. Археалагі таксама прадоўжаць назіранне за сітуацыяй.

У сваю чаргу, Уладзімір Краўчанка настойвае, што работнікамі ЖКГ быў парушаны культурны слой. «Там нельга было капаць. Гэта ахоўная зона. Без дазволу адпаведных служб там нельга было праводзіць земляныя работы. Гэта культурны слой гістарычнай часткі горада», — заявіў "Нашаму Магілёву" грамадскі актывіст.

Ён паведаміў, што рыхтуе ліст у пракуратуру і Міністэрства культуры наконт парушэння культурнага слою падчас земляных работ з выкарыстаннем будаўнічай тэхнікі.

■ Вітольд Няўрыда

## У МАГІЛЁВЕ ПА ТЭРЫТОРЫІ ГІМНАЗІІ №1 ЗНОЎКУ НОСЯЦЦА АЎТАМАБІЛІ

**Кіраўніцтва навучальнай установы ніяк не забяспечвае бяспеку як школьнікаў, так і дашкалят.**




Справа ў тым, што ўяздная брама толькі выглядае зачыненай, а на самой справе замок на ёй вісіць толькі для дэкарацыі. Каб патрапіць на тэрыторыю гімназіі дастаткова пхнуць створку металічнай брамы і яна адкрыецца.

«Не так даўно я заўважыла, што па тэрыторыі гімназіі зноўку сталі ганяць аўтаўладальнікі, якія прыязджаюць за сваімі дзецьмі. Прычым робяць гэта нахабна, ігнаруючы знак «Рух забаронены», - кажа Алена.

Жанчына адзначае, што тэрыторыя школы з'яўляецца адзіным дагледжаным месцам на мікраёне і туды са сваімі малымі дзецьмі прыходзяць гуляць шмат бацькоў.

«Дзеці катаюцца на самакатах, роварах, а таксама ролікавых каньках і побач з імі пралятаюць «блатныя» бацькі. Такое ўражанне, што ў іх зад прырос да сядзення і яны не могуць яго адарваць і прайсці самастойна лішнія 50 метраў. Відаць, забыліся, як у Менску на тэрыторыі школы адбылася трагедыя, калі загінуў хлопчык. Адметна, што тады кіроўца ехаў на невялікай хуткасці і дзіця гэта не выратавала ад гібелі», - кажа Алена.

Каб прадухіліць транзітны рух «блатных» бацькоў Алена, а таксама іншыя грамадзяне, збіраючы пісаць скаргі як у ДАІ, так і на адрас мясцовых уладаў.

Нумары парушальнікаў дарожнага руху «1878 ЕІ-6», а таксама «0654 ЕН-6», фота аўто размешчана на сайце gazetanm.eu.



■ Станіслаў Дубовік

## У МАГІЛЁВЕ БАЙКЕРЫ З УСЁЙ БЕЛАРУСІ АДКРЫЛІ МОТАСЕЗОН І ПРАВЯЛІ ПАРАД «ЗА БЛІЗКАЕ СВЯТЛО!»

**У Магілёве 5 красавіка некалькі сотняў матацыклістаў праехалі калонай па вуліцах горада, адкрыўшы мотасезон і ўзяўшы ўдзел у акцыі «За блізкае святло!»**

«Гэта штогадовая традыцыйная акцыя — адкрыццё мотасезона. Сёлета мы першымі з усіх абласцей праводзім яе. 12 красавіка такая ж акцыя пройдзе ў Мінску, а затым і ў іншых буйных гарадах», — расказаў каардынатар мотапарада Алег.

Байкеры з усіх абласцей Беларусі прыбылі ў Магілёў, да пляцоўкі каля супермаркета «Гіппа» на вуліцы Габраўскай, адкуль пачаўся парад.

Паводле арганізатараў, мэта мотапарада — прыцягнуць увагу вадзіцеляў да таго, што на дарогах з наступленнем цёплай пары года ўзрос матацыклетны рух.

«Мы вырашылі сумясціць дзве акцыі — адкрыццё матацыклетнага сезона і прафілактычную кампанію «За блізкае святло!», — заявіў сукаардынатар кампаніі «За блізкае святло!» Юрый Стукалаў. Паводле яго слоў, вельмі важна, каб вадзіцелі ўключалі святло фар нават днём, нягледзячы на тое, што заканадаўства не абавязвае выконваць гэта. Юрый Стукалаў упэўнены, што ўключаныя днём фары павышаюць як бяспеку самога вадзіцеля, робячы яго машыну больш прыкметнай, так і іншых удзельнікаў руху.

Сукаардынатар таксама пацвердзіў намер правесці ў іншых гарадах Беларусі падобныя мотапарады ў спалучэнні з кампаніяй «За блізкае святло!».

Удзельнікі магілёўскага мотапарада праехалі па цэнтральных вуліцах горада, наведалі праваслаўны храм Святых царскіх мучанікаў і спаведнікаў, дзе добраславіў у дарогу байкераў і акрапіў іх матацыклы айцец Арцемій. Затым матацыклісты ўсклалі кветкі да мемарыялу загінулых пры абароне Магілёва на Буйніцкім полі, а таксама да месца гібелі матацыкліста на кальцавой аўтадарозе паблізу вёскі Галынец.







■ Якуб Корсак

## МАГІЛЁЎЦЫ ЗА СУТКІ ВЫКІДВАЮЦЬ 380 ТОН СМЕЦЦЯ

**Гэта сярэднесутказы паказчык для абласнога цэнтра. У сярэднім 1 чалавек выкідвае ў дзень 1 кг смецця і непатрэбных яму рэчаў.**

З мэтай недапусціць празмернага забруджвання навакольных тэрыторый Магілёўскі завод утылізацыі бытавых рэсурсаў «ЗУБР» уводзіць у эксплуатацыю другую лінію па перапрацоўцы смецця.

Новая сарціровачная лінія для цвёрдых бытавых адыходаў ужо працуе ў тэставым рэжыме і выхад яе на магутнасць 200 тон у суткі плануецца ў сярэдзіне красавіка.

Адначасова з новай сарціровачнай лініяй запусцяць участак па вырабу палімерных гранул, якія будуць вырабляць з адыходаў поліэцілена, ПЭТ, поліпрапілена, АБС-пластыка і іншага.

Усталяванае абсталяванне здолее перапрацоўваць да 1,5 тон разнастайных адыходаў.